Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

27 ЛІСТАПАДА — 3 СНЕЖНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 6000 РУБЛЁЎ
№48 (188)

## АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

### Welcome to USA

У панядзелак, 30 лістапада, маладзечанцы зноў могуць распачаць свой удзел у праграме ўрада ЗША Community Connections.

Горад застаецца ў кампаніі сталіцы і абласных цэнтраў, дзе будзе праводзіцца адбор кандыдатаў на стажыроўкі ў Злучаныя Штаты на наступны год. І сёлета арганізатары запрашаюць на сустрэчу прадстаўнікоў «трэцяга сектара» – недзяржаўных грамадскіх арганізацый. Акрамя іх удзел могуць узяць усе жадаючыя, якія таксама могуць прайсці адбор. Летась, нагадаем, ЗША наведалі два маладзечанцы–прадстаўнікі дзяржаўных арганізацый.

Першая сустрэча пачнецца ў канферэнц–зале цэнтральнай гарадской бібліятэкі 30 лістапада а 16–й гадзіне.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

### Цукар – у суботу, масла – увечары

Свае 200 грамаў масла жыхары горада могуць набываць цяпер пасля 17 гадзін у адным з васьмі вызначаных для гэтага магазінаў. А цукар – у суботу з разліку па кілаграме ў рукі. Яек – таксама па дзесятку на чалавека.

Аналагічная сітуацыя і ў суседніх Ашмянах, але ад увядзення картак мясцовыя ўлады адмаўляюцца.

*Павел МАКЛЮК.*

ВІЛЕЙКА

### Шчасце рыбацкае

Пасля першых маразоў на Вілейскім вадасховішчы з'явіўся лёд. Ён яшчэ зусім тонкі – 10–15 сантыметраў. Калі ідзеш па ім, трашчыць і прагінаецца.

На мінулыя выхадныя сотні рыбакоў ужо шукалі сваё рыбацкае шчасце. Пакуль што добра бярэцца плотка і лешч.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

СМАРГОНЬ

### Бясплатны, але не сыр

На падставе Пастановы Дзяржкамітэта па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, райвыканкам абавязаў упраўленне "Смаргоньмiжрайгаз" устанавіць прыборы ўліку расходу газу ў кватэрах, якія належаць 18 сем'ям маламаёмных граджан.

Грамадзяне звярнуліся напярэдадні з такой просьбай у камісію па выяўленні, уліку і аказанні дапамогі маламаёмным. Сродкі на гэтыя мэты выдзяляюцца з рэспубліканскага бюджэту.

*Павел МАКЛЮК.*

МІНСК

### Шарамет чакае прэмію

Прэс–сакратар Дзярждэпартамента ЗША **Джэймс Рубін** заявіў, што Злучаныя Штаты пратэстуюць супраць рашэння беларускага кіраўніцтва адмовіць журналісту **Паўлу Шарамету** ў выездзе ў ЗША

У кастрычніку Камітэт па абароне журналістаў абвясціў аб прысуджэнні Шарамету прэстыжнай Міжнароднай прэміі свабоды прэсы. Шарамет звярнуўся да беларускіх уладаў па дазвол на выезд у Нью–Ёрк для ўдзелу ў цырымоніі ўручэння прэмій 24 лістапада 1998 года. У лісце, атрыманым Шараметам у мінулую пятніцу, міністэрства ўнутраных справаў паведаміла, што ў яго просьбе адмоўлена і што выезд яму забаронены да 28 студзеня 1999 года.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

### Кватэры

У жылым мікрараёне "Папоўка" набліжаецца наваселле ў жыллёва–будаўнічым кааператыве "Меліяратар". Асноўныя сілы сканцэнтраваны на выкананні цяслярскіх работ, пракладкы водаканалізацыйнай сістэмы. Новабудоўля стала рабочай пляцоўкай для субпадрадчыкаў з Маладзечна.

А вось будаўніцтва 50–кватэрнага дома ЖБК "Маладзёжны" запланавана на трэці–чацверты квартал будучага года. І тым не менш, кватэры ў ім ужо размеркаваныя. Днямі будучыя навасёлы "цягнулі нумаркі", па якіх і вызначалася месцазнаходжанне кватэры.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*

СМАРГОНЬ

### Смаргонскія будоўлі

Па распрацаванай праектна–каштарыснай дакументацыі райвыканкам дазволіў упраўленню капітальнага будаўніцтва прыступіць да ўзвядзення тыпавога дзіцячага садка ў мікраёне агрэгатнага завода.

Аднача ́сова УКБ даручана будаўніцтва сетак электразабеспячэння да дзесяці 1–кватэрных жылых дамоў у вёсцы Асінаўшчызна калгаса імя Калініна.

*Павел МАКЛЮК.*

ТРАГЕДЫЯ

## У Маладзечна яна больш не прыедзе

### Наёмныя забойцы расстралялі Галіну Старавойтаву



МАЛАДЗЕЧНА. Шэсць год таму ў горадзе чарговы раз была **Галіна Старавойтава**. Тут у яе пахаваны бабуля і дзядуля. (З канца 50–х гадоў тады яшчэ дзяўчынка Галя ў Маладзечне праводзіла ўсе свае школьныя канікулы).

А тады на маё пытанне пра рэзкія яе выступленні Старавойтава адказала:

– Дык я ж казачка, мой бацька казак і дзед таксама.

На той час яна была памочнікам прэзідэнта Расіі. На працягу інтэрв'ю Галіна Васільеўна ні разу не зірнула на гадзіннік, жартавала, адказала на ўсе мае пытанні. Як высветлілася з размовы, Старавойтава наведала гарвыканкам па праблеме, узнятай маладзечанцамі. Доўга размаўляла з людзьмі дзесьці на вуліцы. Радавалася, што гараджане падтрымліваюць яе дэмакратычныя погляды, нават падбадзёрваюць.

У той прыезд на Беларусь Старавойтава прывезла пакет дакументаў для Вярхоўнага Савета. У інтэрв'ю яна неаднойчы падкрэслівала:

– Задача расійскіх палітыкаў самых розных плыняў – не дапусціць грамадзянскай вайны ў Расіі.

І гэтых поглядаў яна прытрымлівалася ўсё жыццё.

Дарэчы, Галіна Васільеўна праз колькі часу мусіла прыехаць на Беларусь, каб зняцца ў фільме кінарэжысёра Элы Міловай.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ, журналіст, Смаргонь.*

З НОВЫМ ГОДАМ!

### Новы Год не кожнаму па кішэні

*МАЛАДЗЕЧНА. Да Новага Года яшчэ месяц, але магазіны пачалі ўжо прапаноўваць упрыгожванні да ёлкі. У доме гандлю Няштатны карэспандэнт «РГ» Вольга ПАСЛЕД убачыла такія цэны (параўнайце іх з сярэднімі заробкамі).*

| | |
|---|---|
| Ёлка штучная вял. | 41167100 руб. |
| Ёлка штучная сярэдн. | 8654100–19652000 руб. |
| Ёлка штучная мал. | 1199100–5378100 руб. |
| Набор шароў (2 шт.) | 1146600–1240200 руб. |
| Набор шароў (3, 4, 5 шт.) | 795600–889200 руб. |
| Набор мал. шароў (15 шт.) | 2176200 руб. |
| Лапкі ёлачныя штучн. | 2804000–6126900 руб. |
| Цацачны Дзед Мароз | 78000–377000 руб. |
| Упрыгожванні "Званочкі" | 715000–1079000 руб. |
| Падсвечнікі | 279500–2730000 руб. |
| Мішура | 117000–1778400 руб. |
| Гірлянда | 91000–1736800 руб. |
| Гірлянда электрычная | 227500–3120000 руб. |
| Набор падсвечнікаў | 1495000 руб. |

### Пасля пяці бутэлек...




МЯДЗЕЛ. Віно "Будслаўскае" выпушчана ў Ілаве.

На этыкетцы нейкі старажытны замак. Такога ў Будславе няма. Ёсць толькі вядомы на ўсю Беларусь касцёл.

Загадка: што на этыкетцы? І ці варта на іх змяшчаць гістарычныя помнікі? Ці ж такім спосабам можна паспрыяць, каб людзі зацікавіліся мінулым свайго краю?

*Міхась КУПСКІ.*



САНЭПІД ІНФАРМУЕ

### Пра СНІД

МАЛАДЗЕЧНА. 1 снежня праводзіцца Сусветны дзень барацьбы са СНІДам пад дэвізам "Моладзь у Сусветнай кампаніі супраць СНІДу".

У свеце налічваецца больш за 30,6 мільёнаў ВІЧ–інфіцыраваных. Штодзённа заражаецца 16000 чалавек.

У Беларусі выяўлена больш за 2000 выпадкаў ВІЧ–інфекцыі, у т. л. па Мінскай вобласці – 233 выпадкі, з іх 89,2 працэнта складае моладзь ва ўзросце ад 15 да 30 год.

Маладыя людзі схільныя да найбольшай рызыкі інфіцыравання ў сілу сваіх узроставых і паводзінскіх асаблівасцяў. Калі не атрымаецца забяспечыць прафілактыку захворвання сярод гэтай часткі насельніцтва, то гэта прывядзе да каласальнага ўрону ў дэмаграфічным і эканамічным плане. Грамадству і дарослому насельніцтву неабходна аказаць падтрымку моладзі, яна можа паўплываць на змены характару распаўсюджвання ВІЧ–інфекцыі ў цэлым.

Многія ўжо ведаюць пра тое, як перадаецца гэтае захворванне: праз заражаную кроў, палавым шляхам і праз грудное малако хворай жанчыны. Але калі да 1995 года найбольшая рызыка заразіцца была ў свеце і ў нашай рэспубліцы палавым шляхам, то на сёняшні дзень асноўная маса жыхароў рэспублікі інфіцыруецца пры сумесным увядзенні наркатычных сродкаў шпрыцавым метадам.

Неабходна праводзіць адукацыю з нізавога ўзроўню (з дзяцей і моладзі) для таго, каб людзі раслі з разуменнем праблемы СНІДу і былі належным чынам абароненыя. Калі не, дрэва жыцця засохне.

*Міхаіл ГРАБОЎСКІ, нам. галоўнага ўрача Маладзечанскага РЦГіЭ*

ПРАФЕСІЯНАЛІЗМ

### Дыспетчары РЭС

МАЛАДЗЕЧНА. Упершыню прайшоў занальны конкурс дыспетчараў раённых электрасетак. Кожны з 21 удзельнікаў прайшоў 5 этапаў прафесійнага майстэрства з выкарыстаннем камп'ютэрных праграм.

І, ІІІ, IV месцы занялі валожынцы **Ніна Шостак, Людміла Касцецкая, Віктар Каўдушка**. На ІІ месца прарваўся **Аляксандр Петрусевіч** з Маладзечанскага гарадскога раёна электрасетак. Пераможцы (з І па ІІІ месца) на месцы работы атрымаюць надбаўку да акладу суадносна 15, 10, 5 працэнтаў.

Сярод каманд перамагла Вілейка. Далей былі Валожын, Маладзечна (горад), Мядзел, Маладзечна (раён).

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# МІНСКІ АБЛАСНЫ ДРАМТЭАТР

## Рэпертуар на снежань

### Ранішнія спектаклі

| | | |
|---|---|---|
| 2<br>серада<br>10-00 | 9<br>серада<br>10-00 | П. Макаль<br>**“Адчыніце, казляняткі”**<br>(мюзікл у 2-х дзеях) |
| 4<br>пятніца<br>14-00 | | Г. Булыка<br>**“Чарадзейства ў краіне Оз”**<br>(казка-канцэрт) |
| 18<br>пятніца<br>10-00 14-00 | **ПРЭМ’ЕРА** | А. Якімовіч<br>**Добры змей”**<br>(незвычайная казка) |

**Навагоднія ранішнікі: А. Якімовіч “Добры змей”** аўторак,22, серада,23, чацвер,24, субота,26, нядзеля,27, аўторак,29, серада,30- УСЕ РАНІШНІКІ ПАЧЫНАЮЦЦА Ў 10.00 І 13.00, чацвер, 31- пачатак ранішніка ў 10.00

### Вячэрнія спектаклі

| | |
|---|---|
| 1<br>аўторак<br>**19-00** | Ж.- П. Сартр<br>**“Пры зачыненых дзвярах”**<br>(ірэальная драма ў 2-х дзеях) |
| 2<br>серада<br>**19-00** | А. Вампілаў<br>**“Дваццаць хвілін з анёлам”**<br>(правінцыйны анекдот) |
| 3<br>чацвер<br>**19-00** | Р. Тама<br>**“Восем закаханых жанчын”**<br>(сямейны дэтэктыў у 2-х дзеях) |
| 5<br>субота<br>**17-00** | У. Гібсан<br>**“Двое на арэлях”**<br>(балада пра каханне ў 2-х дзеях) |
| 6<br>нядзеля<br>**17-00** | Т. Дорст<br>**“Гер Паўль”**<br>(трагіфарс ў 2-х дзеях) |
| 8<br>аўторак<br>**19-00** | А Петрашкевіч<br>**“Дагарэла свечачка”**<br>(клас-канцэрт) |
| 9<br>серада<br>**19-00** | Франц Ксавер Кроц<br>**“Без мяне мяне ажанілі”**<br>(камедыя ў 2-х дзеях) |
| 10<br>чацвер<br>**19-00** | С. Мрожак<br>**“Караль”**<br>(драматычная клаўнада ў 2-х дзеях) |
| 11<br>пятніца<br>**19-00** | С. Кавалёў<br>**“Саламея і яе амараты”**<br>(споведзь жанчыны (трагікамедыя ў 2-х дзеях)) |
| 12<br>субота<br>**17-00** | А. Астроўскі<br>**“Апошняя ахвяра”**<br>(меладрама ў 2-х дзеях) |
| 20<br>нядзеля<br>**17-00** | У. Рудаў<br>**“Камедыя”**<br>(камедыя ў 2-х дзеях паводле К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча) |

**Маладзечна, Чкалова, 7, тэл.: адміністратар 61732, каса 52417**

*СУСЕДЗІ*

# Пан Ян любіць гасцей

***ВАРШАВА. У сталіцы Польшчы на даволі ціхай вулачцы Гагарына ў доме нумар 15 знаходзіцца цэнтр славянскай прэсы і кніжкі. Падобнага яму ў бліжэйшых краінах Еўропы няма.***

**Ян Заброцкі** – гаспадар гэтага цэнтра – распавядае, што стварэнне пачаў тры гады таму ў сваёй кватэры. Працаваў на той час у польскай акадэміі навук, пачаў з продажу ўкраінскіх і беларускіх кніг. Разаслаў улёткі не толькі па Польшчы, але і па Германіі, Амерыцы, Балгарыі, іншых краінах. Неўзабаве прыйшоў ліст са Швецыі, дзе выказвалася жаданне набыць 5 кніг.

Знаёмыя і сябры пачалі наведвацца дамоў да пана Яна – і праз год ад кватэры засталася толькі назва, бо наведвальнікі ішлі ад раніцы да вечара. Падобная цікавасць тлумачылася цягай да культур сваіх народаў, а беларусаў, украінцаў, рускіх і людзей іншых нацыянальнасцяў у Варшаве дастаткова.

Так паўстаў на вуліцы Гагарына цэнтр славянскай прэсы і кніжкі. Цяпер тут наведвальнікі могуць набыць шмат цікавай і карыснай літаратуры, кніжак ці проста пагартаць газеты. Акрамя гэтага, пан Ян вельмі рады кожнаму, хто прыязджае ў Варшаву са сваіх краін па справах і наведваецца ў цэнтр. Дзверы тут адчыненыя для ўсіх добрых людзей, бо ніхто іх не дзеліць ні па веравызнанні, ні па палітычных поглядах. На гэты конт спадар Заброцкі мае сваё меркаванне:

– Палітыкі прыходзяць і адыходзяць, а культура застаецца.

Шмат навуковых работнікаў прыязджае ў цэнтр з Беларусі. Не адзін раз былі тут **Мальдзіс, Барскі, Мархель, Сагановіч**, іншыя. Наведваюцца сюды на славянскія вечарыны ці проста пагартаць кніжкі і студэнты з Варшаўскага ўніверсітэта, асабліва шмат сярод іх выхадцаў з Беластока, дзе жыве шмат этнічных беларусаў.

Цікава, што гэтага няўрымслівага чалавека ўкраінцы называюць украінцам, рускія – рускім, беларусы – беларусам і гэтак далей. На гэта пан Ян не крыўдуе, хаця на самой справе ён паляк

*Мар’ян ВЯНГРОЎСКІ.*

*КУЛЬТУРА*

# 1 мільён – ганарар за шлягер



*Паэтка Таіса Трафімава, спявачка Стэла і тэлевядучая Арына Ястраб.*

ФОТА З АРХІВА ТАІСЫ ТРАФІМАВАЙ.

***Песня “Каталіся на каруселях” увайшла ў залаты фонд беларускай эстрады. Рэспубліканскае радыё, TV на яе не шкадуюць эфірнага часу. Запісаны кліп. А аўтар слоў, паэтка з Маладзечна Таіса ТРАФІМАВА, за гэтую песню ад Белтэлерадыёкампаніі атрымала ганарар у 1 мільён рублёў.***

– “Каталіся на каруселях” мы напісалі разам з выканаўцай **Стэлай**, – гаворыць Таіса, – Стэла напісала і музыку, і рускія словы. Прапанавала мне словы пераклaсці. Я пачала працаваць – і дадала свае радкі. Такім чынам, атрымалася сааўтарства.

– У перадачы “Прэм’ера песні” беларускага тэлебачання вы расказвалі крыху пра “кухню” супрацоўніцтва з кампазітарам. Дастаткова разоў дваццаць праслухаць мелодыю, каб напісаць да яе словы? Мой сусед, прыбіраючы дома, спявае:

*Каталіся на каруселях.*
*На каруселях падраслі.*
*Блакітнай хмаркаю вясенняй*
*Надзеі нашы адплылі.*

– Я напісала вершы да 11 песень і 15 перакладаў. “Во имя живых” для хору ветэранаў пераклала за ноч. З іншым перакладам змагаюся, бывае, тыдні. Акрамя натхнення, ёсць пэўная тэхніка, свае сакрэты. Напрыклад, у словах літара “о” распяваецца значна лепш, чым “е”. Таму ўжывацца яна павінна часцей.

**– Кампазітар заказвае наяўнасць канкрэтных слоў, сюжэтаў?**

– Калі просяць напісаць словы, агаворваецца схема: каханне, боль, адзінота... Мая першая песня – “Кадрыля”. Кампазітар **Уладзімір Бараноўскі** патэлефанаваў: прынясу табе рыбу. Здзівілася, бо не ведала, што ў музычных колах “рыбай” завецца музыка для песні.

Дарэчы, “Кадрылю” народны рэгіянальны ансамбль “Сакавінка” прадстаўляў у Германіі, Турцыі.

– З якімі кампазітарамі супрацоўнічаеце ў Мінску, Маладзечне?

– У сталіцы са Стэлай. **Алег Елісеенкаў** прапанаваў супрацоўніцтва. Дома з **Дзмітрыем Сушко, Аленай Атрашкевіч, Раісай Калыскай**.

– Песня на заказ, да нейкай падзеі – для паэтаў і песеннікаў з’ява звычайная?

– Толькі аднойчы я напісала па заказе. Дачка **Таццяна была** скаўтам. Збіралася ў паход і паскардзілася, што ля вогнішча няма чаго спяваць. Так нарадзілася “Скаўцкая песня”. А музыку да яе напісала трыо “Фіеста”.

– Трапіць на вялікую эстраду складана. «Хабар» давалі?

– Да “двара” далучылася, дзякуючы фестывалям у Маладзечне. На апошнім старшыня Саюза пісьменнікаў **Уладзімір Някляеў** чытаў перад слухачамі, сталічным бамондам мае вершы са зборніка “Усміхнуся вятрам”. Ды і пазнаёмілася на фестывалях з людзьмі вядомымі: **Уладзімірам Карызнам**, журналістам **Анатолем Клышкам**, тэлевядучай **Арынай Ястраб**...

– Ці моцная канкурэнцыя ў сталіцы сярод паэтаў–песеннікаў?

– Не думаю, калі ўлічваць мой ганарар за “Каруселі”.

*Васіль САВІЦКІ.*

*ПРАМЫСЛОВАСЦЬ*

# Маманцяня Гера на “Полі цудаў”



*Алена Роліч і майстар участка Яўгенія Кункевіч з “дзецьмі”.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

МАЛАДЗЕЧНА. На гандлёва–прамысловым камбінаце “Аксаміт” шыюць два дзесяткі розных найменняў мяккіх цацак. Лёс іх непрадказальны. Адныя казачныя героі трапляюць у мясцовыя магазіны. Іншыя – каму пашчасціць могуць апынуцца і за мяжой – у Расіі, на Украіне. Маманцяня Гера трапіў у рукі Леаніда Якубовіча. “Усынаўленне” бачылі многія тэлегледачы.

Некалі на рынку рэспублікі, у нашых суседзяў “прапісаліся” мяккія цацкі з Кітая з адметнымі азіяцкімі рысамі. Часцяком цяжка было вызначыць, кот гэта ці сабака, заяц ці воўк. У нашых жа сутнасць вызначаецца адразу. І твары добрыя.

Швачка **Алена Роліч** на камбінаце з 1985 года. Апошнім часам шые варон, малпачак, сланянятаў. Самая любімая яе цацка – маманцяня. Для зручнасці прыдумалі яму імя Гера. За змену па норме трэба пашыць 8 такіх Гераў.

Паколькі заработак налічваецца ад зробленага, дазваляюць звяроў браць дадому. Дома Алене малодшая дачка дапамагае, дзевяцікласніца **Надзя**.

– Калектыў у нас жаночы, – гаворыць швачка, – у іншых арганізацыях жанчыны, бывае, адносіны высвятляюць, плёткі ходзяць. У нас – не. Збіраеш па частках тую ж малпачку – усмешка міжволі з’яўляецца.

На жаль, камбінат сваімі мяккімі вырабамі не распаралжаецца. Сталічнае ТАА “Метэор” заказ дае, сыравінай забяспечвае, узоры прывозіць. А на месцы шыецца “панчоха”, ідзе набіўка. Кожны чацвер зробленыя цацкі адпраўляюцца ў сваё першае падарожжа – у Мінск. І кожны чацвер заказ на звярка мяняецца.

Работніцы цэха мяккай цацкі жартам цэх называюць музеем. Ідуць школьнікі да іх на экскурсію. І фатаграфавацца любяць на ўваходзе ў камбінат. Зразумела, з Герам ды іншымі.

*Васіль САВІЦКІ.*

*КУЛЬТУРА*

# Сцены дапамаглі

ІВЯНЕЦ. На базе дзіцячага дома–інтэрната прайшоў абласны агляд–конкурс мастацкай самадзейнасці.

У Івянец прыехалі 230 гасцей з 14 калектываў. Дзеткі з мясцовага інтэрната занялі II месца. І такім чынам зарабілі 3 мільёны прызавых.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# Дзяржынскі і кераміка

ІВЯНЕЦ. Дырэктар музея Ф. Дзяржынскага **Алег Рамаоўскі** і цяпер згадвае другое абласное свята ганчарства. На другім паверсе ўстановы разгорнутая экспазіцыя новых паступленняў.

Асноўную яе частку складаюць вырабы вядомых майстроў керамікі з Лагойска **І. Раманчука, С. Саўрыцкага, А. Кірычыка**.

Творы ганчароў музей набыў у час правядзення сёлетняга “Глінянага звону”.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*

*ЭКАЛОГІЯ*

# Школьнікі са 100 мільёнамі

ВАЛОЖЫН. Каля 100 мільёнаў рублёў выдаткавала раённая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя з пачатку года сваім юным памочнікам на экалагічнае выхаванне.

Інспекцыя мае цесную сувязь з дзіцячым садком №5 (базавая ўстанова па экалагічным выхаванні), гімназіяй, СШ №1, Яршэвіцкай сярэдняй школай.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ЗОАТЭРАРЫУМ

***По рэгіёне ездзіць выстаўка экзатычных жывёл. З 16 лістапада зоатэрарыум фірмы «Урада» экспаніраваўся ў Вілейцы ў краязнаўчым музі, з 24 лістапада- у Маладзечне. Жывыя малпы, павукі, нільскі кракадзільчык, кобра, а таксама іншыя трапічныя жывёлы прыцягваюць увагу не толькі малечы, нягледзячы на 60-тысячны кошт білета (для дзяцей- 40 тысяч). Да жывёл можна нават дакранацца. самыя смелыя бяруць гадаў ў свае рукі, вешаюць на шыю.***

# Смельчакі

Мне больш за ўсё спадабаўся нільскі кракадзіл. Ён яшчэ зусім маленькі- год і пяць месяцаў, каля паўметра даўжынёй. Каштуе ён каля $150, і калі захацець, то набыць яго можна ў Мінску. Гэта стварэнне жыве 20 і больш год, расце да 7 метраў. Маёй дачцы Ладзе найбольш спадабаўся імператарскі ўдаў з Цэнтральнай Амерыкі.

**Ігар КІЦІКАЎ.**



*Экскурсавод дэманструе пітона.*



*Пітон на шыі наведвальніцы*



*Шукай, малпачка, вошак!*

ФОТА АЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА

## Камароўка, 22. 11. 98

*Пральны парашок*

| | | |
|---|---|---|
| Dosia | 450 | 100000 |
| E standard | 600 | 117000 |
| Tide Lemon | 450 | 130000 |
| E automat | 600 | 140000 |
| E maxima | 600 | 165000 |
| E 2 in 1 | 600 | 185000 |
| Ariel | 450 | 155000 |
| Omo intelligent | 450 | 190000 |

**Ігар КІЦІКАЎ.**

# Фірменнае

СМАРГОНЬ. За 10 месяцаў фірменны гандаль рэалізаваў прадуктаў і прамысловых тавараў на 39,9% ад агульнага тавараабароту Смаргоншчыны. Рэалізацыя ўласнай прадукцыі, тавараў, атрыманых па бартэры ў лясгасаўскім магазіне складае 100%, магазінах ліцейна–механічнага завода – 99,2%, хлебазавода – 95,7%, АП "Смаргоньсілікатабетон" – 92,6%.

Многія прадпрыемствы і калгасы маюць на Смаргоншчыне па некалькі фірменных магазінаў. Калгас "Светлы шлях" – 5, камбікормавы завод – 10.

**Павел МАКЛЮК.**

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 18.11 | 25.11 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 210 | **230** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | – | – |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 152 | **185** |
| Селядзец | 1 кг | 159–210 | **150–210** |
| Рыс | 1 кг | 110 | **120** |
| Цукар | 1 кг | 72 | 75 |
| Грэчка | 1 кг | 90 | **97** |
| Алей | 1 л | 180 | **190** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | – |
| Маянэз | 250 г | 48 | **50** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 240 | **255** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 75 | **80** |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 65 | **75** |
| Лімоны | 1кг | 235 | **235** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 70 | **100** |
| Масла | 1 кг | 165 | – |
| Тварог | 1 кг | 100 | **80** |
| Малако | 1,5 л | 30 | **40** |
| Бульба | 1 вядро | 55 (мал.) | **55(мал.)** |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | 100 | **100** |

ПРАДУКТЫ

# Маладзечна зайздросціць Вілейцы

***МАЛАДЗЕЧНА. Кіраўніцтва мясцовага гарвыканкома сустрэлася з працоўным калектывам вучэбна–вытворчага аб'яднання БелТІЗ.***

Генеральны дырэктар АТ Маладзечнагандаль **Мікалай Віннікаў** на сустрэчу прынес дзве навіны – добрую і дрэнную. Добрая – цукар свабодна прадаецца ў дзяржаўных магазінах па 72 тысячы за кілаграм. Дрэнная – з цукрам, з іншымі асноўнымі прадуктамі і надалей будзе складана.

Паліцы магазінаў – люстэрка нашых праблемаў. На складах ёсць сыр, масла, цукеркі, шампанскае. Але гэты НЗ – на Новы год. Ды і цэны на калісьці закладзеныя прадукты будуць цяперашнія. Шампанскае паступіць у продаж прыкладна па 300 тысяч.

Цэны на цукар выраўнялі з рыначнымі. Адразу знялі дзве праблемы – дэфіцыту і спекуляцыі. Як адзначыў Мікалай Віннікаў, магазінны (па 40 тысяч) часцяком трапляў на рынак. Чакаецца прывоз у горад 60 тон цукру. Гэта палепшыць сітуацыю.

З месяц пыталіся, чаму б не ўвесці талоны. Хаця і гэта не гарантыя, што чалавек купіць прадукты: нарміраванне немагчымае, бо іх у патрэбных аб'ёмах проста няма. Старшыня гарвыканкома **Станіслаў Татарыновіч** сказаў, што не атаварваюцца фонды (фонды, ліміты, "выбіванне" зноў трывала ўваходзяць у наш лексікон – рэд.) на асноўныя прадукты. Масла хапае толькі на школы, дзіцячыя садкі, бальніцы.

Апошнім часам у продажы няма белага хлеба, айчынных мыйных сродкаў. З беларускай пшаніцы белы не выпякаюць. Збожжа купляюць за мяжой. Урад рэспубліку абнадзеіў: для гэтага валюта ёсць. Сітуацыя выправіцца.

Што тычыцца пральных парашкоў, айчынныя вытворцы – прадпрыемствы ў Баранавічах, Брэсце – не маюць сродкаў, каб набыць сыравіну. Такая ж сітуацыя і на Гомельскім тлушчакамбінаце. Таму мы вымушаныя купляць імпартнае мыла.

Узнімалася пытанне пра немагчымасць нешта купіць пасля работы. Хаця, па рашэнні ўлады, прадукты і прадаюцца з 17–00, непрацоўныя, пенсіянеры займаюць чэргі зранку, блакіруюць доступ да паліц. Запасаюць "на чорны дзень", перапрадаюць. Аднак няма і законных падстаў, каб іх не абслугоўваць, "разганяць" ранішнія чэргі.

Мікалай Віннікаў гаворыць, што на працягу месяца праблема з забеспячэннем гараджанаў прадуктамі захаваецца. У перспектыве ж усё павінна нармалізавацца.

– Не прабіць сцяну толькі па мясапрадуктах, – зазначыў гендырэктар.

Ён параўнаў маладзечанскую сітуацыю з суседняй Вілейкай. Там яна значна лепшая. У горадзе менш насельніцтва. Ёсць сваё масла. Гармалзавод працуе без збояў.

**Васіль САВІЦКІ.**

КРЫМІНАЛ

# Прыхавалі

ВІЛЕЙКА. Загадчыца аптэкі №191 па вуліцы Савецкай разам з фармацэўтамі на рабочых месцах прыхавала ля 60 найменняў лекаў, вітамінаў, медпрэпаратаў на агульную суму каля 10 мільёнаў рублёў. Таксама ўстаноўленыя па касе лішкі грошай. Пасля "падзеі" загадчыца сказала:

– Усюды маю знаёмствы.

На жаль, не завяла іх у службе па эканамічнай злачыннасці.

**Марына ТАЧЫНСКАЯ.**

МАРАЗЫ

# Выпівох ратуюць, а бамжы замярзаюць

ВІЛЕЙКА. У цеплавузле дома №74 па вуліцы Чапаева знойдзены труп. Яшчэ ў жніўні гэты чалавек пасварыўся з жонкай і пайшоў з дому. Пасяліўся ў цеплавузле. Набіў там паліц для рэчаў. Харчаваўся тым, хто што дасць.

**Марына ТАЧЫНСКАЯ.**

МАЛАДЗЕЧНА. Павялічылася колькасць наведвальнікаў медвыцвярэзніка. За суткі па 10–15 чалавек дастаўляюць ў гэтую ўстанову. Штовечар гараджане тэлефануюць – прыязджайце, чалавек замярзае. Дарэчы, начлег у цяпле медвыцвярэзніка каштуе адну мінімалку.

**Аддзел інфармацыі.**

# А ў Вілейцы яйкі выкідаюць на снег

***ВІЛЕЙКА. Служба эканамічнай злачыннасці мясцовага РАУС, падатковая інспекцыя праверылі аб'екты гандлю і грамадскага харчавання.***

Оперупаўнаважаны СЭЗа **Алег Станкевіч** правяраў магазін №3 дзяржаўнага МП "Мара". Неўзабаве побач з магазінам на снезе наткнуўся на 240 штук яек. Хутчэй за ўсё, прадаўцы вынеслі прыхаваны прадукт.

Пры праверцы сталоўкі кандытарскага цэха ДП грамхарчу "Водар" міліцыянеры 2 гадзіны выцягвалі з розных куткоў прыхаваныя прадукты. Пра знойдзеныя тут 600 яек повары, кандытары сказалі:

– Мы іх прынеслі з дому, знеслі нашы куры.

На яйках ад свойскіх кур стаялі штампы.

У ходзе праверкі выяўленыя парушэнні правілаў гандлю ў магазінах №13 ДМП "Мара", №№9, 8, 13, 40, Куранцы, Любані. Работнікі грамхарчу Вілейскага райспажыўсаюза прадалі сабе звыш нормы 450 кілаграмаў цукру, мукі в/г – 100 кілаграмаў.

Усе парушальнікі аштрафаваныя.

**Марына ТАЧЫНСКАЯ.**

ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Валожынскім РАУС адшукваецца



Ігар Мікалаевіч Дурко, 1970 г. н., жыхар г. Маладзечна, які 7.11.1998 года каля 17 гадзін пайшоў з в. Слабада Валожынскага раёна на прыпыначны пункт Лістапады, каб ехаць у г. Маладзечна.

По цяперашні час месца яго знаходжання невядомае, знік без вестак.

Прыкметы: на выгляд 28 год, хударлявага целаскладу, валасы светла–русыя, на правай руцэ па 1–ю фалангу няма вялікага пальца.

Быў апрануты: кепка шэрая (у клетачку), скураная чорная куртка, чорныя джынсы. Пры сабе меў гаспадарчую сумку цёмна–сіняга колеру.

**Просім грамадзян, якія маюць звесткі пра месцазнаходжанне І. Дурко, паведаміць па тэлефонах:**

***у г. Маладзечна – 76155, 71446, 02;***

***у г. Валожын – 55476, 55302, 02.***

# Агонь не злітуецца

ВАЛОЖЫН. 12 чалавек загінула ў агні ад пачатку года на Валожыншчыне. Асабліва пачасціліся выпадкі пажараў з наступленнем халадоў і ацяпляльнага сезона. У перыяд з 12 па 19 лістапада ў раёне адбылося пяць пажараў, у якіх загінула трое чалавек.

Двойчы, 13 і 15 лістапада, пажарныя імчалі ў вёску Чабаі Узбалацкага сельсавета, і двойчы былі ахвяры агню – 47–гадовы мінчанін М. Трысцянецкі і 74–гадовая жыхарка вёскі Н. Рамановіч.

А 19 лістапада ноччу палыхаў пажар на вуліцы Калініна ў Івянцы. У алкагольным ап'яненні гаспадар дома І. Карыцкі ўключыў самаробны абагравальнік і лёг спаць. Загарэўся матрац, пасцельныя рэчы. У агні загінуў і сам гаспадар.

**Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.**

МУЗЫКА

# Рухавік творчасці ў дзеянні



МАЛАДЗЕЧНА. Пяцёра музыкантаў рок–гурта "Дыктатар" – студэнты ВНУ. Жывуць у Мінску, а да нас прыехалі з канцэртам, які на "ўра" прайшоў у СШ №9.

Гурт існуе пяць год. Ягоная творчасць заўважаная ў сталіцы, таму хлопцаў запрашалі выступаць на 75–годдзе БДУ, у Політэхнічнай акадэміі, клубе "Cosmopoliten".

Калісьці гурт пачынаў з кавераў "Metallica", цяпер іграе power– і інтэлектуальны рок. Шмат працуе над аранжыроўкамі, асабліва гітарнымі. Чаму гурт мае назву "Дыктатар", патлумачылі самі музыканты.

**Алег Абрамовіч:**

– У нас адразу і не зразумееш, хто галоўны. Антон усім дае свой тэлефон, падтрымлівае сувязь з прыхільнікамі. Хутчэй за ўсё, ён і ёсць дыктатар.

**Антон Шапараў:**

– Пачыналі мы з акустычных гітар. Збіраліся на кватэры. Замест барабанаў выкарыстоўвалі звычайны пыласос.

Прызнаны складальнік вершаў у гурце – Аляксандр Капялевіч. Сябры з яго часцяком пакепліваюць – то словы да песні занадта ўжо складаныя, то наадварот, пародыі.

А што хлопцы вясёлыя, дык гэта адразу відаць. Толькі ступілі яны на маладзечанскую зямлю, як засыпалі мяне пытаннямі:

– Метро ў вас ёсць?

– А аўтобусы ходзяць?

Па іх словах, гумар – рухавік творчасці.

*Таццяна МІР.*

ШКОЛА

# Мінулае складаецца з сёняшняга

***МАЛАДЗЕЧНА. Госць рэдакцыі – выкладчык гісторыі, "Чалавека і грамадства", кіраўнік гарадскога метадычнага аб"яднання настаўнікаў гісторыі Валяр"ян ГАЙДУЛЬ.***



- Гісторыя – з'ява складаная, рознаабліччная ў разуменні, тэорыі, навуцы і неадназначная ў практычным адлюстраванні (паўтарыць яе нельга, але ўрокі браць патрэбна). Яна асацыіруецца перш за ўсё з мінулым, як бы супрацьпастаўляецца цяперашняму, сучаснаму. Але ж мінулае складаецца з цяперашняга, якое, у сваю чаргу, штосекундна перацякае ў мінулае. Чаму ж тады мы сённяшні дзень адпраўляем у гісторыю, не клапоцячыся пра тое, якім ён будзе падавацца нашчадкам?

Адказ бачу ў тым што сёння мы гісторыі не надаем патрэбнага значэння. Грамадства ахапіла роспач, яно не азіраецца назад, не глядзіць уперад, яно жыве адным днём, шмат што губляе, не ўсведамляе.

Мы добра разумеем, што дрэва, калі падсекчы карані, засыхае, але зусім не ўсведамляем, што менавіта гісторыя з'яўляецца каранямі грамадства. Гісторыю, як і раней, многія імкнуцца выкарыстаць у палітычных мэтах, што прыводзіць да яе фальсіфікацыі. Прыкладам, камусьці не падабаецца, што 8 верасня 1514 года ў Аршанскай бітве перамаглі войскі ВКЛ, камусьці здаецца, што гэты факт можа пасварыць нашую краіну з краінай–суседкай. Іншым перамога падабаецца.

Ці можа пасварыць сяброў дзяцінства, калі яны ўспомняць, як яны калісьці адзін аднаму па носе з'ездзілі? Здаецца, наадварот. Узнікае пытанне: чаму тады Расія і Германія падтрымліваюць добрыя адносіны? А Другая Сусветная вайна была 50 год таму, а не 500, як Аршанская бітва.

Хацелася б, каб гісторыя не станавілася прадметам палітыкі, а, як сказаў Цыцэрон, была б настаўніцай жыцця.

**– Давайце звернемся да больш празаічнага. Цяпер з'явілася шмат дапаможнікаў па гісторыі Беларусі для здачы школьных экзаменаў. На гэтым фоне неяк згубіўся адзін з першых (калі не першы, прыстасаваны пад новыя ўмовы) – "Беларусь ад сівой мінуўшчыны да сённяшніх дзён". Папулярны курс лекцый цяпер не відаць.**

– Я б не сказаў, што той дапаможнік забыты. Многія вучні, асабліва 9–класнікі, паспяхова скарыстоўваюць іх і цяпер у якасці падручніка. Як, прынамсі, і 10–класнікі. Там дастаткова сцісла, але разам з тым поўна (што немалаважна) асвятляюцца школьныя экзаменацыйныя пытанні. Цяпер некаторыя білеты змяніліся, з'явіліся кан'юнктурныя тэмы і распрацоўкі пад іх. Фармальна змяняюцца экзаменацыйныя білеты, але ж база, асноўныя матэрыялы застаюцца. Таму і карыстаюцца тымі лекцыямі.

Брашуры ў выдаўцоў яшчэ ёсць, але няма часу займацца іх распаўсюджваннем. Да мяне звяртаюцца тыя, хто ведае пра іх вартасці. На жаль, у асноўным гэта выкладчыкі, бацькі з іншых гарадоў, нават абласцей. Калі каго яны цікавяць – магу заказаць пэўную колькасць.

**- У супрацоўніцтве з выкладчыцай маладзечанскай СШ №8 Людмілай Хурсан вы падрыхтавалі дапаможнік па сусветнай мастацкай культуры. З якой мэтай?**

- Увялі прадмет, але няма падручнікаў. Затое існуе праблема духоўнасці. У школе ёсць прадмет, а вучні, бацькі, нават іншыя настаўнікі кепска ўяўляюць яго. Мы ж абодва маем дыпломы па культуралогіі і хочам дапамагчы, таму і выдалі дапаможнік па сусветнай мастацкай культуры для 9-класнікаў. Наколькі я ведаю, многія настаўнікі робяць заказы на іх. Ён, дарэчы, атрымаў высокую ацэнку выкладчкаў Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы, добра яго сустрэлі і ў Міністэрстве адукацыі.

**- Некаторыя робяць так: няма падручніка – няма праблемы (не трэба і прадмет вывучаць).**

- Паспяхова працуюць па іх у маладзечанскіх СШ №№ 2, 5, 8, 9, 11, 12, школе-інтэрнаце №1. Падтрымліваем мы рэгулярныя кантакты з абласным і Рэспубліканскім інстытутамі ўдасканальвання настаўнікаў, якія заказваюць іх для іншых гарадоў краіны.

Сімвал Зямлі – кардыёліум (сэрца). Калі ў аднаго з паслядоўнікаў даасізму спыталіся, чаму ён дастае ваду з калодзежа рукамі, той адказаў: Калі я буду дадставаць ваду пры дапамозе прыстасавання ці машыны, то сэрца стане падобным на машыну.

Я не заклікаю адмаўляцца ад тэхнікі, ад прагрэсу, але ўпэўнены: калі дзяржава, усе мы мала ўвагі будзем удзяляць духоўнасці, то ў будучым нас не чакае нічога добрага.

*Запісаў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Бярыце сумку, у ёй грошы...

МАЛАДЗЕЧНА. Усё здарылася ў аўторак, 10 лістапада, каля 20 гадзін.

Было ўжо цёмна на вуліцы, калі мой сын вяртаўся ад сваёй бабулі. Дарога нядоўгая – па Прытыцкага ад Беларусбанка ды на Віленскую, за дзіцячую паліклініку. Марозік толькі падштурхоўваў ісці шпарчэй.

Хлапчук бачыў жанчыну, якая ішла наперадзе, але асабліва не прыглядаўся да яе. Спадарожніца крочыла якраз неабходным яму напрамкам.

Ля драўлянага зялёнага будынка цэнтра стандартызацыі і метралогіі яна раптоўна спыняецца. Хвіліну чакае, затым на выцягнутай уперад руцэ падае сумку і гучна заяўляе хлопцу, які наблізіўся:

– Бярыце сумку. У ёй грошы. А калі будзеце гвалціць – я буду крычаць".

Гаротны хлапчук да таго збянтэжыўся, што доўга не мог нічога ёй адказаць.

– Ды не пужайцеся вы, – толькі і вымавіў.

Маўчанне цягнулася яшчэ колькі хвілін, пасля чаго жанчына з гіканнем кінулася ў суседнія двары. На гэтым і разышліся.

Можна толькі здагадвацца, якія думкі панавалі ў галаве гэтай нервовай, перапалоханай жанчыны ўсю дарогу. У страху, вядома, вочы вялікія. Хочацца толькі, каб гэтая жанчына (можа, яна прачытае гэтыя радкі) не мучылася ў здагадках: чаму "злодзей" быў такі нерашучы.

Безумоўна, трэба сцерагчыся кепскіх людзей. Але і панікаваць не варта. Калі вы кожнаму спадарожнаму будзеце прапаноўваць сваю сумку з грашыма, абавязкова знойдзецца і той, хто зробіць ласку і возьме яе.

*Святлана САРОКА.*

СМАЧНА ЕСЦІ

# Змяя з локшынай

***У 1992 годзе мяне занесла ў Краснадарскі край. Была сярэдзіна восені, таму тут добра распрадаваліся "кітайскія пухавікі", выробленыя ў падпольных майстэрнях Вільні.***

Адну ноч давялося правесці ў чыгуначным гатэлі, наскора перарobленым з былога складскога памяшкання. "Нумар" быў разлічаны на 12 чалавек. 11 з іх аказаліся кітайцамі. Калі зайшоў у памяшканне, мае суседзі сядзелі на кукішках вакол дзвюх невялічкіх электраплітак і збіраліся нешта гатаваць. Яны дружна азірнуліся, адзін нешта сказаў, быццам я перашкодзіў нечаму надта важнаму. Трэба было нешта сказаць.

– Янцзы, Хуанхэ, Сінзян, – скорагаворкай выпаліў я назвы трох буйных рэк Кітая.

На жоўтых тварах маіх суседзяў з'явіліся ўсмешкі. Лёд недаверу быў растоплены. Адзін кітаец жэстам запрасіў мяне ў сваю кампанію.

Аказалася, што яны гатуюць локшыну. Прычым, гатавалі мужчыны, а жанчыны толькі дапамагалі.

Локшыну адварылі, адкінулі на сіта, трохі падсушылі і абсмажылі ў алеі да залацістага колеру. Адначасова свініну парэзалі на тонкія кавалачкі, грыбы і цыбулю – кружочкамі і ўсё гэта таксама засмажылі ў моцна разагрэтым алеі.

Калі "кітайская локшына" была згатаваная і раскладзеная па талерках, мяне чакалі два сюрпрызы. Па–першае, замест відэльца мне выдалі дзве драўляныя палачкі, па–другое, кітайцы дасталі некалькі бутэлек гарэлкі, у кожнай з якіх спіралямі плавала па адной невялікай змяі. Пасля таго, як гарэлку разлілі па шклянках, змей дасталі, парэзалі і паклалі ўсім на талеркі па кавалачку. Мне дастаўся самы вялікі.

Локшына аказалася вельмі смачная. А змяя на смак нагадвала воблу, якая некалькі гадзін праляжала ў лужыне піва.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

НАДВОР'Е Ў ДОМЕ

# "Жанчына каштуе столькі, колькі на сябе выдаткоўвае"

***МАЛАДЗЕЧНА. Пасля публікацыі ў мінулым нумары экспрэс–апытання "Што на сняданак?" у рэдакцыю патэлефанавала настаўніца Ірына Нядвецкая. "Не люблю, калі людзі ныюць. Трэба радавацца кожнай дробязі", – пераконвала яна. З аптымісткай мы дамовіліся сустрэцца ў яе дома.***



ФОТА АЎТАРА.

– Я Рак па гараскопе, нарадзілася ў год Тыгра. Па натуры – аптыміст, гаворыць гаспадыня, – жыву ў пакоі інтэрната, выхоўваю сына Рыгора, якому споўнілася 4. Увесь дзень літаральна распісаны па хвілінах. Не люблю, калі ёсць вольны час. Працую ў пачатковых класах СШ №7, танцую ў народным ансамблі "Беларусачка", спяваю ў хоры настаўнікаў школы, завочна вучуся ў педуніверсітэце. На дзвярах у пакой заўсёды вывешваю "самаробны пейджэр". У мяне шмат сяброў, і кожны можа пакінуць паведамленне.

Дадатковых заработкаў не маю. З зарплаты адразу плачу за інтэрнат, дзіцячы садок, жыллёвы кааператыў (будую кватэру). Потым купляю мыйныя сродкі. Пасля прадукты і нешта абавязкова Рыгору. Я радуюся кожнай дробязі: прачытала сыну казку, атрымаўся ўрок, плённа прайшла рэпетыцыя, прыйшлі сябры. Дарэчы, пад ложкам ляжыць журнальны столік без ножак. Калі прыходзяць госці, кладу яго на ложак. Так чай п'ем.

Люблю кулінарыць. Заўсёды ёсць дома нейкая выпечка. Тэлевізар гляджу па выхадных. За рабочыя планы саджуся а 10 гадзіне вечара. Калекцыяніірую "прыколы". Вось апошнія: "За Родзіну готов я землю есть. В конце концов, ведь надо что–то кушать" (з "Аншлага"); "Многим женщинам бог ума не дал, зато красотой обделил" (з КВЗ).

Зрэдку плачу. Доўга і горка. Праблемы, што ва ўсіх, – не хапае грошай, хварэе сын.

Таксама зрэдку купляю буйныя рэчы. Колькі год таму набыла халадзільнік. Тры месяцы, як вымушаная была купіць касцюм на вяселле сяброўкі. Ёсць такі выраз: "Жанчына каштуе столькі, колькі на сябе траціць". У мяне так не атрымліваецца. Аднак спадзяюся на лепшае жыццё. Лічу, што ў мяне і майго сына ўсё наперадзе.

Аўтар удзячны за гэтыя шчырыя словы. Дарэчы, кожны можа запрасіць да сябе карэспандэнта, каб пагаварыць з ім пра жыццё.

*Васіль САВІЦКІ.*

